Ніва
БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК
№ 5 (936) ГОД XIX БЕЛАСТОК 3 ЛЮТАГА 1974 г. ЦАНА 60 гр.

# Дарагія ёй усмешкі дзяцей

Звыш 30 гадоў свайго маладога жыцця прысвяціла пані Надзя Савіцкая навучанню і выхаванню сялянскіх дзяцей.

— Час так нябач плыве, — кажа настаўніца. — Працаваць у школе ў Трасцянцы Гайнаўскага павету пачынала я яшчэ перад другой сусветнай вайной. Вучыць дзяцей не перасталі нават у вайну. Супольна з дырэктарам Андрэем Іванавічам Сяргеюком арганізавалі мы падпольнае навучанне. Пасля вайны вяла я заняткі з вучнямі першых чатырох класаў. Навучала іх між іншым беларускай мове. У 1957 годзе ездзіла я нават на курс для настаўнікаў беларускай мовы ў Польшчы, які быў арганізаваны ў Мінску. З тае пары беларуская і руская мовы сталі маімі асноўнымі прадметамі навучання.

Назаўсёды запомнілі сваю першую настаўніцу трасцянскія школьнікі. Яна вучыла іх ставіць першыя літары... Многія выхаванкі пані Надзі Савіцкай не забываюць пра яе. Некаторыя з іх наведваюць сваю настаўніцу дома, пішуць да яе пісьмы, віншуюць з імянінамі ці з днём нараджэння.

Пані Надзя Савіцкая ўлюбёна ў сваю прафесію. Перад вайною давялося ёй здабываць адукацыю. Перажыла шмат гора і нястачы. Мо іменна таму такая яна чуллівая да вясковага дзіцяці. Дарагія ёй усе дзеці, іх клопаты і шчаслівыя ўсмешкі. Яна кожнаму заўсёды дапаможа, параіць, як зрабіць найлепш. Уся моладзь шануе і паважае яе. Лёс свой пані Надзя Савіцкая непарыўна звязала з жыццём вёскі Трасцянка, з яе працавітымі, з адкрытымі сэрцамі, жыхарамі.

Пані Надзя Савіцкая пастаянны чытач „Нівы". Беларускі тыднёвік гэта самая блізкая і дарагая ёй газета. „Ніву" прачытвае яна ўсю. Гэта, між іншым, яе верны дапаможнік пры навучанні роднай мовы.

Пані Надзі Савіцкай жадаем далейшых плённых поспехаў у працы, добрага здароўя ды сотні гадоў жыцця.

Тэкст і фота **Я. Ц.**



# БГКТ хроніка

■ Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў для дзяцей наваагоднюю ёлку, на якую прыйшлі яны са сваімі бацькамі — членамі БГКТ. Дзеці дэкламавалі вершы, спявалі, танцавалі, а пасля глядзелі выступленне дзіцячага тэатральнага гуртка з Рускага таварыства.

■ Многія члены БГКТ ужо аплачваюць членскія складчыны за 1974 год. У мінулым годзе аддзелы БГКТ аплацілі членскія складчыны: сямяціцкі — у 95,2%, беластоцкі павятовы аддзел — у 71,3%, бельскі — у 58,9%, беластоцкі гарадскі — у 53,3%, сакольскі — у 51,1%, гайнаўскі — у 50,8%, гданьскі — у 49,6%, варшаўскі — у 40,3%. Вельмі слаба выглядае аплата членскіх складчын у дуброўскім аддзеле БГКТ.

■ Галоўнае праўленне БГКТ у снежні мінулага года купіла новы аўтобус „Сан" і ад 22 студзеня можа выкарыстоўваць яго для патрэб **харавых** і тэатральных калектываў БГКТ. Гурткі БГКТ могуць цяпер таксама планаваць паездкі ў тэатры, на турыстычныя экскурсіі па Польшчы або іншыя мерапрыемствы. Зразумела, у гэтай справе трэба звярнуцца да ГП, найлепш праз адпаведны аддзел, і дагаварыцца адносна даты паездкі і аплаты за яе.

■ Фінальны песенны конкурс БГКТ адбудзецца ў нядзелю, 24 лютага ў памяшканні ГП на Варшаўскай 11 у Беластоку. Па ініцыятыве ГП куратарыя асветы і аддзел асветы ўпраўленняў павятовых рад народовых у сакавіку праводзяць школьны конкурс на беларускую песню. Фінальны конкурс школьнікаў адбудзецца таксама ў памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ. (мх)



## ЮНЫЯ АКАРДЭАНІСТЫ

Ужо 12 год вучыць дзяцей іграць на акардэоне музык Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра ў Беластоку Веслаў Дзюбінскі. Заняткі пад яго кіраўніцтвам адбываюцца ў клубе Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку, вул. Варшаўская 11. У гэтым навучальным годзе вучацца тут іграць на акардэоне 28 асоб ва ўзросце ад 9 да 16 гадоў, у асноўным дзеці актывістаў і членаў БГКТ.

Фота **Я. Цялушэцкага**



## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

**План ВРН у Беластоку на 1974 год ● Першыя вынікі рэформы ў асвеце ● Трагедыя „партызанскай мамы" ● У Спічанах не спяць, але... ● Малако ў парашку з Бельска ● Дакуль падво(д)зіць пасажыраў? ● Пасля нас хоць трава не расці... ● Ці можна „бачыць рукамі?" ● Весткі з Гарадка, Тафілаўцаў, Плёскаў, Крынак, Спічкаў, Ляўшоў і Дзернякова ● Песня з рэпертуару „Парціты" „Dwa razy dwa".**

# Даць мільён!

На I краёвай партыйнай канферэнцыі ў сваім выступленні I сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі сказаў, што Беласточчына ў бліжэйшыя 2 гады павінна дабіцца ў жывёлагадоўлі 1 мільёна штук быдла. Гэта многа, але планы рэальныя.

Хачу сказаць, як прадстаўляецца магчымасць павелічэння гадоўлі быдла ў гміне Шудзялава Сакольскага павету.

Каб выканаць пастановы I канферэнцыі, дык у бліжэйшыя два гады ў Шудзялаўскай гміне гадоўля павінна павялічыцца на тысячу кароў. Гэта абазначае, што кожны гаспадар павінен павялічыць свой статак на адну штуку. Можна гэта зрабіць? Можна!

У гміне ўжо поўнасцю прайшла камасацыя зямлі. Супольныя выганы да камасацыі былі ў кожнай вёсцы. На іх вялікімі стадамі пасвіліся каровы і коні, а таксама і гусі. І вось, у час камасацыі ў адных вёсках гэтыя выганы былі падзеленыя, а ў другіх — не. Напрыклад, у вёсках Сукавічы, Шудзялава, Слоя, Навінка падзялілі выганы паміж гаспадарамі, а ў вёсках Астравок, Востраў Паўночны, Востраў Новы і інш. не падзялілі.

Вёска Астравок мае больш як 100 гектараў супольнага пасбішча. Больш як 20 га яго круглы год стаіць пад вадой, а на астатніх пасвяцца каровы, коні і гусі. Ніхто выгану не даглядае — не ўгнойвае і не падсявае. Каб загаспадарыць гэты выган, дык вёска Астравок магла б гадаваць у тры разы больш кароў.

Падобная сітуацыя і ў вёсцы Новы Востраў. У іх больш як 50 га супольнага выгану, на якім таўчэцца стада быдла і коней. Калі б выган загаспадарыць, вёска таксама ў тры разы магла б павялічыць сваю гадоўлю.

А вось прыклад супрацьстаўны: у вёсцы Слоя да камасацыі было 57 гектараў супольнага пасбішча, дзе, бывала, усё лета стаяла 80—90 штук быдла і коней. Калі ў час камасацыі ў 1971 годзе падзялілі гэты выган, дык у Слоі больш, як удвая павялічылася гадоўля быдла і ў чатыры разы гадоўля свіней. Ва ўсёй Слоі ў 1971 годзе было 68 кароў, а ў 1973 годзе ўжо 154. Таксама ўзрасла гадоўля ў іншых вёсках, дзе разам з камасацыяй былі падзелены выганы.

Другая важная, але занядбаная тут справа. Гаспадары робяць вельмі мала ўсевак, а перш за ўсё мала сеюць сырадэлі па жыце. Пасеў паплёнаў па зжатым жыце, як старніскoвай рэпы ці іншых культур, увогуле не практыкуецца. Налічыць можна толькі некалькі гаспадароў у гміне, якія сеюць сырадэлю па жыце.



У вёсцы Пачопак многа сырадэлі па жыце сеюць Здзіслаў Чарэмха і Віктар Хомчык, а ў Маркавым-Выгане — Антон Лукашэвіч і Казімір Лукашэвіч. Гэтыя ж гаспадары гадуюць больш кароў і свіней. Яны да самай зімы кормяць жывёлу зялёнай сырадэляй, а на зіму маюць зноў для свіней мякіну з сырадэлі.

У Шудзялаўскай гміне нераўнамерна развіваецца гадоўля. Адны паводле сваіх магчымасцей гадуюць многа, а іншыя маюць магчымасці, каб гадаваць больш, а гадуюць мала.

Ёсць у гміне добрыя гаспадары, з якіх можна браць прыклад. Вось Іван Федзюкевіч з Слоі гаспадарыць толькі з жонкай (яны не маюць дзяцей) на 6 гектарах зямлі. У іх 6 кароў. Цяпер купіў цяля пароды „нцб" і бычка пароды „шорлеты". Мае двое коней, 18 штук свіней і два кнуры. Купіў пародзістых авечак. У 1973 годзе прадаў 3 бычкоў і 12 свіней.

Эдвард Чарэмха з Слоі на 5 га трымае 4 каровы і купіў восем цялушак пароды „нцб". У 1973 годзе прадаў 40 свіней. Ёсць і іншыя добрыя гаспадары, як хоць бы Эдвард Ляўковіч з Трысцянога Новага, Зыгмунт Бах з Вострава Новага, Баляслаў Крушыневіч з Бароўшчыны і іншыя.

На тэрыторыі гміны ёсць 1750 гектараў зялёных угоддзяў — сенажацей і пасбішчаў. Але з гэтага загаспадарана толькі 500 га. Тут неабходна меліярацыя балот, а найперш выганаў. У нашай гміне павінна павялічыцца жывёлагадоўля, а найбольш не хапае нам быдла, гадавы прырост якога павінен дасягаць 8,5 прац. Цяпер на 100 га угоддзяў у нас 39 штук быдла, што ставіць гміну на перадапошняе месца ў павеце.

Праблемай росту жывёлагадоўлі ў Шудзялаўскай гміне павінны заняцца больш, чым дагэтуль, улады, сельскагаспадарчая служба — заатэхнікі і аграномы.

Трэба заглянуць да кожнага гаспадара і выкарыстаць усе рэзервы, якія ён у гэтай галіне мае. Там, дзе прайшла меліярацыя, трэба давесці да таго, каб збіраць тры пакосы сена.

Трэба сеяць больш сырадэлі па жыце, паплёны на жытнісках, канюшыну і дзецяліну. Не дапускаць, каб так многа цялят ішло пад нож.

У гміне выступае яшчэ нізкая якасць гадаваных кароў і слабы корм для іх. Тут не ўжываюць сачыстых кармоў, гаспадары не робяць сіласаў і не кісяць зялёнай масы.

Проста неабходна, каб як у меліярацыі выганаў і балот, так і ў агратэхнічнай галіне ўлады як найхутчэй дапамаглі Шудзялаўскай гміне.

**А. С.**

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА—МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 181


*

Зноў беланогі снег
Пабег у шыр пругменя
І стала мне шырока
Стала вольна
І вецер зачарпнуў
Сняжынкі у далоні
Пабег задзёрыста
Сабой davольны
І я бягу ў дзяцінства
Белаю дарогай
Няма праблем
Няма ідэй
Няма турботаў
Я чысты
Беласнежны
Беланогі
Заблытаны у беласнежны мотак

**Алесь Барскі**



## ВЕРУ

Веру ў каханне крынічнычыстае і ў розум нябесна-бяздонны, і ў годнасць таполеблакітную, ствараючыя падабенства Хрыста нявольнікамі вынсёнага ад зайздрасці тым, якія ўмелі паміраць. І ў смутак, поле асеннне, і ў радасць, квітненне ўрачыстае, даступныя слязам роспачы альбо захаплення. І ў спакой, зорку нявечную, і ў зямлю, глыбіні невядомыя даючыя нескапчонасць праміняннаў альбо бессмяротнасць. І ў гнеў, вяртанне заўзятае, і ў маўчанне, жанчыну зганьбаваную, дакранаючыя сумлення жывога альбо ўяўлення.

Веру ў жыццё, смерць яго і ўваскрашэнне.

І ў вечнае, бо бязмежнае.
І ў свет.

Веру!

**Сакрат Яновіч**

* * *

**Белавежцам**

Стаялі коні на тратуары.
Ніхто не ведаў: чые, чаму?
На месцы тым, дзе быў хамут,
Віселі звонкія гітары.

Натоўп людзей, як жыта летам,
Хістаўся ў нарастаючай гарачцы...
— Гарэзнікі! Прайдохі гэтыя паэты!
Вучыцца ў школу! Ці хутчэй
да працы!

І выйшаў нейкі гаспадар,
Іх ў воз запрог і засупоніў,
І скінуў яшчыкі гітар,
І ўсе ўбачылі, што гэта коні.

**Ян Чыквін**



## СІНІ БЕРАГ

Прыстань чаканнем прыспала прыгоды
І нават лісток не ўпаў картай прайгранай
Вяршыні елак згарнулі яе чорны шаль ночы
Сіні бераг сном таямніцы жаданай
Зашуршэў нагамі ў пяску надрэчным

А ўслед паляцелі сляды спатканняў
Павіслі ў абрывах на ластавак ножках
І сонца рыбай плюснула ў вадзе
А грознае вока волата пушчы зубра
Агонь распаліла ў крупінках расы

Зайграла аркестра лясным вінам ягад
Сачысты вецер крануў лёгка струны за руку
Ужо сіні бераг згінуў маленькаю іскрай
Я толькі чую цяпло твайго цела
Шапчу твае імя распаленымі вуснамі.

**Ул. Гайдук**



## Замкнулось віеко часу

*Вітёр ліжэ шыбы,*
*Як сумленне душу.*
*Зэмля обдэрта з жыця...*
*Коб нэ опалі хоч разом з лісьцём!*
*Пусто і сумно*
*На нэбі, як на могілках,*
*Крыжыы журавлюв,*
*Йіх піесьня*
*і эхо зэлені*
*Замкнулі віеко часу.*

*

*За намі мінулы дні.*
*Рука затыснулась на шклянці.*
*Выпьем! —*
*Чы хтось знае,*
*што нас ждэ?*

*

*Голова о стуол опэрта —*
*Замкнулось*
*віеко часу.*

**Іван Кірызюк**

## Штодзённасць

На дыбачкі
ўзнімаецца дзіця
да акенца кіёску
забаўку
кладзе яму белая жанчына
на здымак у газеце
в'етнамскага дзіцяці
без рук.
Абедзвюма ручкамі
прыціскае ляльку
не знае
што можна
не мець рук.

**Кастусь Бандарук**



## ПЕСНЯ

*Песня*
*плыве,*
*узнімаецца ў паветра,*
*даходзіць да грудзей,*
*сціскае за сэрца,*
*выціскае слёзы.*

*Паэты,*
*кампазітары,*
*спевакі,*
*гэта да вас*
*адносіцца:*
*цешце людзей,*
*не карайце*
*смуткам,*
*не паіце слязьмі,*
*будзіце*
*на тварах усмешкі.*

*Гавораць людзі,*
*што смех прадоўжвае жыццё.*

**Ніна Гаўрылюк**

## Аб адной дзяўчыне

**(Успаміны)**

Мела зялёныя вочы
і больш
не памятаю
Агульна была прыгожая

І мела дванаццаць
год

Я бачыў
як мянялася
бачыў яе пачатак
канца не

І як заўсёды
так і тут
раз была кабетай
другі раз
дзіцём
упартым
Памятаю

Гэта было даўно
Мела зялёныя вочы

А цяпер? Што цяпер?
Дзе дванаццаць год?
Ёсць толькі
зялёныя вочы
І пры чым тут яны?

**Ірэна Баравік**






**Благавешчанскі сабор у Супраслі быў заснован у у 1503 годзе, у 1557 годзе яго аздобій фрэскамі сербскі мастак Нектарый.**
**(з хронік)**

З іконаў вочы святых глядзяць з дакорам і ласкава, асуджаюць і клічуць, з недасяжнай усеабымаючай мудрасцю дзівуюцца ўчыненаму чалавекам злу і абяцаюць яму адпушчэнне грахоў. А ў іх цёмнай глыбіні тоіцца тая бязмежная слодыч вечнасці, пра якую ў глухім куточку кожнай людской душы хаваецца нейкая надзея, кволенькае спадзяванне, але такое прывабнае, захапляючае, святое.

— І не выпадкова далі яму імя Нектарый, значыць — салодкі, прыемны. — Заўважае з задумаю ў голасе архімандрыт Сергій Кімбар і, сочачы за звітнымі рукамі манаха-мастака, звяртаецца да гетмана Рыгора Хадкевіча, што сама не адрывае сваіх вачэй ад пэндзля Нектарыя: — Ваша вялікасць, мы — інакі ўбогія, харством нясказаным спакушаныя, заказалі ў Нектарыя іконы на ўвесь сабор, а золата ў нашай каліце небагата. Плаціць не будзем мець чым.

Гетман глянуў на благавідны твар архімандрыта і ўсміхнуўся з гэтай просталінійнай хітрасці.

— Нічога, отча, і ваша каліта не такая ўжо бедная, але і я не паскуплюся. Гэта ж тут, у падземеллі, грабніцы маіх бацькоў пакаяцца.

Змрок у царкве гусцеў і зволына падымаўся ўверх, затапляў страліцыя залучыны зводу. Нектарый ужо збіраў свае пэндзлікі і гладышы з фарбамі. Гетман і архімандрыт выйшлі на царкоўную паперць.

Чырвонае кола майскага сонца кацілася за вяршаліны лесу, а з даліны ракі Супраслі падымалася лёгкая плёнка туману. Наваколле стогаласіла птушыным спевам.

Хоць да Заблудава — палаца магнатаў Хадкевічаў — усяго васемнаццаць вёрст, і коні былі б там яшчэ перад змярканнем, гетман рашыў пераначаваць у манастыры. Гетманскі повар, што ніколі не разлучаўся са сваім панам і дома і ў дарозе, пакорпаўшыся ў багатых манастырскіх кладоўках і натупаўшы на архімандрыцкай кухні, падаў на стол печанага дзікага селезня з грыбною начынкаю, агромністага язя ў студзені, сакавітую вэнджаную ласяціну

(Працяг на стар. 4)

 




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## ЦЁТКА (ЭЛАІЗА ПАШКЕВІЧ) 1876—1916

Цётка належыць, несумненна, да адной з найбольш каларыстычных постацей у беларускай літаратуры. Была яна першай, калі не лічыць Канстанцыі Буйлы, беларускай жанчынай, надзеленай сапраўдным літаратурным талентам. Яе смелае жыццё, дзейнасць і творчасць ідэальна змяшчаюцца ў рамках нашаніўскай пары. Таму можам яе лічыць тыповай нашаніўскай пісьменніцай. Праўда, прымаючы пад увагу крайні радыкалізм яе поглядаў, можна думаць, што ідэалогія як бы выходзіць па-за рамкі нашаніўскай ідэалогіі. Няма аднак сумненняў у тым, што Цётка не толькі згаджалася з галоўным ідэйным напрамкам „Нашай нівы“, але была адным з актыўных стваральнікаў гэтага напрамку.

Цётка паходзіла з дробнай шляхты і была каталічкай. Гэтыя два факты былі, несумненна, істотнай перашкодай у далучэнні Цёткі да беларускага нацыянальнага руху і прыняцці ёю нашаніўскай ідэалогіі, якая была па сутнасці ідэалогіяй сялянскай. Калі шукаць прычын, з-за якіх Цётка выраклася абароны інтарэсаў свайго шляхецкага класа і прыступіла да абароны інтарэсаў беларускага сялянства, дык трэба звярнуць увагу на творчасць Багушэвіча. Цётка ўжо ў маладосці пазнаёмілася з творчасцю Багушэвіча. Ведала, бадай, і практычную дэмакратычную дзейнасць гэтага пісьменніка. Рашыла пайсці ў яго сляды. Гаворачы аб прычынах высакароднай абароны Цёткай беларускага сялянства і беларускай прыгнечанай нацыі, не можам звяртаць увагу толькі на ўплыў Багушэвіча ці каго-колечы іншага. Прычын гэтых трэба шукаць і ў эмацыянальнасці Цёткі, у спачувальнай шчырасці яе душы, у яе альтруізме, у дапытлівасці яе натуры, уменні глядзець на рэчаіснасць, аналізаваць яе і рабіць практычныя вывады.

Дзякуючы гэтаму Цётка прыйшла да вываду, што з'яўляецца яна неаддзельнай часткай беларускай нацыі і што абарона інтарэсаў гэтай нацыі з'яўляецца яе элементарным абавязкам.

Нарадзілася Цётка 3.VII.1876 года непадалёк ад Ліды. Амаль усё дзяцінства прайшло ў маёнтку дзеда, у мясцовасці Тэрэсін. Нядрэнныя ў параўнанні з сялянствам матэрыяльныя ўмовы дазволілі апекунам малой Лізы вучыць яе пры дапамозе дамашніх настаўнікаў. Ужо ў дзяцінстве заўважаецца склоннасць Лізы да хвароб. Факт гэты не дазваляе на бесперастойны адукацыйны працэс.

У 1892 годзе пачынаецца ў жыцці Цёткі новы перыяд — перыяд жыцця па-за бацькоўскім і дзядоўскім домам. У гэтым годзе Цётка едзе ў Вільню і паступае там у прыватную земскую гімназію. Вучыцца з перапынкам. Слабое здароўе дае аб сабе знаць. Аднак вучыцца наогул добра. З замілаваннем адносіцца да кнігі. Асабліва цікавіцца гуманітарнымі навукамі.

У 1902 годзе бачым ужо Цётку ў Пецярбурзе. Вучыцца яна там на папулярных у Расіі курсах Лесгафта. Прабыванне ў Пецярбургу мела вялікае значэнне ў працэсе крышталізацыі нацыянальнай і грамадскай свядомасці Пашкевіч. У той час у Расіі даспявала атмасфера сацыяльнай рэвалюцыі. Адмоўныя адносіны да палітычнай сістэмы, да ідэі непарушнасці Расійскай імперыі дамінавалі і ў асяроддзі рабочага класа, і сярод вечных пратэстантаў — студэнтаў. Не без значэння быў і той факт, што Пецярбург быў вялікім цэнтрам, у якім знаходзіліся вялікія групы прадстаўнікоў нацый, прыгнечаных царызмам. Палякі, літоўцы, фіны, прадстаўнікі закаўказскіх і азіяцкіх народаў стваралі больш або менш спаеныя нацыянальныя арганізмы. У асяроддзях гэтых апрача ідэі грамадскага вызвалення ўзрастала ідэя нацыянальнай свабоды і роўнасці.

Дапытлівая натура Цёткі не была абыякавай на гэтыя ідэі і імкненні. Сутыкаючыся з прадстаўнікамі іншых народаў, слухаючы іх выказванні, знаёмячыся з іх ідэямі, планамі і намерамі, Цётка прымервала іх да беларускіх патрэб і магчымасцей. Прыйшла яна да вываду, што лёс беларусаў павінен вырашацца ў Беларусі. Таму вяртаецца на Беларусь і прымае актыўны ўдзел у стварэнні першай беларускай нацыянальнай арганізацыі Беларускай рэвалюцыйнай грамады.

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ



ФЁДАР НЕДЗВЕДЗЬ

Малады селянін Фёдар Недзведзь з Орлі Бельскага павету з'яўляецца перадавіком па сельскагаспадарчай прадукцыі. Вядзе ён 15-гектаравую гаспадарку. Мае высакаякасныя зямельныя ўгоддзі, на якіх расце нават пшаніца і буракі.

Штогод дастаўляе ў дзяржаўныя засекі каля 7 000 кілаграмаў збожжа і яшчэ больш бульбы. „Другога хлеба“ збірае ён не менш 320 цэнтнераў з гектара. Спецыялізуецца ў вырошчванні збожжавых культур. Вядзе доследныя палеткі з ячменем. Дзякуючы свайму вопыту і сельскагаспадарчай літаратуры збірае ўсё большыя ўраджаі. Дома ў яго поўныя засекі жыта, аўса, пшаніцы.

Фёдар Недзведзь у палявых работах карыстаецца ўласным трактарам з падвеснымі машынамі. Некаторыя сельскагаспадарчыя машыны бярэ ў мясцовым МБМ-е. У вольны час дапамагае сваімі машынамі сабраць ураджай суседзям.

Фёдар Недзведзь завёў у сябе свіней. У мінулым годзе прадаў дзяржаве на ГС-аўскіх пунктах скупкі хатняй жывёлы 11 свіней, у тым ліку амаль 400-кілаграмавую свінаматку.

Ён запалонены сваёй нялёгкай працай на гаспадарцы.

— Чалавек не стамляецца, — кажа перадавы селянін, — калі бачыць, што праца яго карысная ды ўлады хваляць. Не шкадуе тады дзён пражытых, лягчэйшай становіцца кожная, нават найцяжэйшая праца.

Тэкст і фота **Я. Ц.**

дзверцы яго келіі пару коней: аднаго пад сядлом, другога з прытрочанымі мяхамі. Нектарый збег па стромкіх усходнях, паправіў мяхі на кані. Нябачна для прыслужнікаў крануў тугі мяшочак, што пакоіўся пад кашуляю на яго грудзях. Усміхнуўся сам да сябе: „А ўсё ж не пакрыўдзілі. Будзе з чаго год некалькі жыць — усе манеты залатыя“.

Архімандрыт Сергій выйшаў са свае абіцелі пазяхаючы і з падпухшымі ад сну вачыма:

— Шчаслівай дарогі табе, сыне. Калі на Афон прыбудзеш, пакланіся ад нашай лаўры Супрасльскай усім тамашнім месцам знатным.

А калі за манастырскімі варотамі заглох тупат конскіх капыт, айцец Сергій падняўся на паперць царквы, шырока расхінуў дзверы і ў соты мо раз пачаў любавацца фрэскамі.

Вочы святых глядзяць з дакорам і ласкаю, асуджаюць і клічуць, з недасяжнай усеабымаючай мудрасцю дзівуюцца учыненаму чалавекам злу і абяцаюць яму адпушчэнне грахоў.

*

У ліпені 1944 года нямецкі камандзір атрада знішчэння не здолеў вытрымаць сілы дакору гэтага зроку. Загадаў мінёрам раскласці пад сценамі ўнутры царквы пакункі з дынамітам. Тыя, глянуўшы з-пад ілба на фрэскі Нектарыя, найбольшы пакунак паклалі пад постаццю Юрыя. Яна была найпрыгажэйшая. Ціхую і пагодную ліпнёвую раніцу разарваў скрыгатлівы выбух і асляпіла шэра-чорная хмара дыму і попелу.

Так, Нектарый — значыць: салодкі, прыемны.

**Мікалай Гайдук**

# Непрытульная пачакальня

Няраз даводзілася мне быць у Валілах або Гарадку Беластоцкага павету. Калі збіраўся ехаць поездам, заходзіў у пачакальню ПКП у Валілах-вакзале. Вельмі ж непрытульная яна. Пасажыры і тутэйшая моладзь (бо яна часта заходзіць сюды курыць папяросы або „так сабе“) кідаюць дзе папала паперкі, смецце ад семячак сланечнікаў і гарбузоў, топчуцца ля печкі і выносяць на ботах попел.

На нашу думку, неабходна часцей замятаць падлогу ў вакзальнай пачакальні, а таксама звярнуць больш увагі на тых, хто засмечвае падлогу.

Асобнай увагі патрабуюць надпісы на развешаных на сценах пачакальні раскладах язды паяздоў. Дапісаныя заўвагі ды рысункі не найлепш сведчаць аб культуры людзей, карыстаючыхся з валілаўскай пачакальні. (ця)

# Цёмна на вуліцы

Зараз зіма. Дні кароткія, а ночы доўгія. У такую пару года больш эксплуатуецца вулічнае асвятленне. Часцей здараецца, што перагараюць лямпачкі і неабходна завінціць новыя. А на гэта, як вядома, маюць дазвол толькі электраманцёры. Высылае іх па запатрабаванню энергетычнае прадпрыемства. Шкада толькі, што часта тэлефонная заява астаецца без ніякага водгуку.

Перагарэлі электралямпачкі вулічнага асвятлення ў Новым Ляўкове Гайнаўскага павету. Не ўсе лямпачкі гараць у Ахрымах, Падляўкоўі і іншых вёсках. Жыхары гэтых вёсак ужо пару месяцаў прывыкаюць да вулічнай цемры. Людзі ходзяць з ліхтарыкам. Аднойчы ў Новае Ляўкова прыехалі манцёры, каб у аднаго гаспадара памяняць „корак“ на стаўбе. На тым самым стаўбе ёсць спаленая электралямпачка. Калі гаспадар папрасіў, каб укруцілі новую, электраманцёры адну знайшлі і ўкруцілі. Але большай колькасці не захацелі завінціць. Параілі лепш пазваніць да іх у другі раз, тады зноў прыедуць. Так і дагэтуль блішчыць толькі адна лямпачка, прабіваючы начную цемень навокал.

...А ў вёсцы ж жыхары слухаюць па радыё і тэлевізару, што ідзе шырокая дыскусія аб ашчаднасці гаручага. Слухаюць і дзівуюцца, калі ўспомняць тых электраманцёраў.

Многа электралямпачак перагарэла і згасла (ці хаця не назаўсёды?) на стаўбах побач дарогі Валілы-вакзал — Гарадок у Беластоцкім павеце. Не ўсе электралямпачкі гараць таксама ў самой сталіцы адной з большых гмін — Гарадку. Тут на месцы ёсць нават электраманцёрскі пастарунак. На вуліцы мала дзе толькі відна. Праўду кажуць, „найцямней бывае пад ліхтаром“. (ця)

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

ЛЮБОЎНАЯ

103

Allegro

А ў по-лю вяр-ба, пад е-ю ва-да. Там ста-я-ла, во-ду

бра-ла дзеў-чы-на ма-я. Там ста-я

*А ў полю вярба, пад ёю вада.*
*Там стаяла, ваду брала*
*Дзеўчына мая.*
*— Дзеўчыно мая, напой мне каня!*
*— Ой, ні буду я паіла —*
*Ні жана твая.*
*— Хаця ні жана — каханка мая,*
*Дай жа, дай жа коню воды*
*Хаця ж з поўвядра!*
*Конік воду п'е, капытамі б'е*
*— Стшэжшся, стшэжшся, дзеўчынанько,*
*Бо он це заб'е!*
*— Хоця ж замерыць, але ні ўдэрыць —*
*Права рончка, злотны персцень —*
*То мне обронiць.*
*Права рончка, злотны персцень —*
*То мне обронiць.*

Ад Варонка Анелі, год 75, вёска Снічаны, гміны Сідра Сакольскага павету, запісаў 27 снежня 1973 года Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.




# ЦІ АЛЯ МАЕ КАТА?

Як цяжка часамі даюцца першыя словы і сказы з буквара!

Скланяюцца маленькія галоўкі над кніжкай, стараюцца звязаць літарку з літаркай, язычкі з натугі прыкусваюць. Для дзяцей гэта цяжкая праца. Далёка не ўсе бацькі ўмеюць іх заахвоціць да гэтага, нуднаватага спачатку, занятку і яшчэ менш бацькоў умее адпаведна памагчы сваім маленькім студэнтам. То часу няма, то цярплівасці, а то і ахвоты. А дзяцей, вядома, на двор цягне. Да сяброў, сябровак, да гульняў. Цяжка сядзець за сталом, калі ў нагавіцы, здаецца, вожыка хтосьці палажыў. Так і свярбіць, каб кінуць усё і выбегчы з хаты. Застаюцца агрэхі — партыі нявывучанага матэрыялу, праблемы ў неабходных маламу чалавеку ведах. Дзіцё траціць усялякае зацікаўленне да навукі — ну, бо каму прыемна двойку за двойкаю хапаць, у хвасце класа плясціся. А дапамогі найчасцей знікуль не дачакаешся.

У школе настаўнік падганяе праграму, часу не мае, а ў хаце толькі лаюць за кепскія ацэнкі, а часамі і скуру лупцуюць. Хоць ты, сеўшы, плач.

Таму, калі мне Алёша Языкаў асвядаміў, што да іхняга Паўліка, які ўжо ў трэцім класе, настаўніца „вось так сабе“ дахаты прыходзіць, чытае з ім і ў навуцы памагае, я аслупеў.

Тройчы перапытваў Алёшаньку, як і што, пакуль да мяне дайшло нарэшце.

„А ці яна да нас толькі? Яна і да Чарка Вайткоўскіх, і да Юркі Савіцкага і да іншых ходзіць“, — тлумачыў мой інфарматар. „Так, так“, — прытаквае маці, Марыя Языкава. — Казала, што хоча, каб усе яе вучні абавязкова паспяхова школьны год закончылі. Я ўжо больш чым 8 год як сваіх дзяцей у школу пасылаю, а такога не бачыла“.

Гэта, каб настаўнік дахаты, і пры тым вось так сабе, дарма, з уласнай ахвоты. Проста не ведаеш, як дзякаваць.

Напэўна, гэта дзева якая старая, падумаеце. Ну, бо чаму іншаму хацелася б час на чужых дзяцей траціць? І вось памыліліся б, моцна памыліліся б.

Бо Ніна Маркевіч, пра якую расказваў Алёша, апякунка трэцяга класа пачатковай школы ў Гарадку, асоба яшчэ зусім маладая.

Ды пры тым жанчына, на якой кожнае мужчынскае вока, як кажуць, з прыемнасцю затрымаецца.

І твар, і фігурка, значыцца, як трэба. Ну, і наогул усё што мае быць, як гавораць, на сваім месцы. Камар носа не падточыць.

З тым большай пашанай сцвярджаем, што на месцы ў яе і добрае жаночае сэрца.

Ну, бо цяжка тут гаварыць пра пачуццё абавязку. Абавязкі ж, як бы не было, усе настаўнікі маюць. Так, так.

Сустрэнешся са звычайным, здаецца, чалавекам, са звычайным, здаецца, людскім падыходам да жыцця, да працы і не можаш зразумець, адкуль гэта ўзялося.

Ці ж гэта ўжо настолькі рэдкая ў сённяшні час „штука“?

**Ларс**



 

